Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

№ 3 ◆ 12-19 мая 1995 года Цана 200 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

✓ НАВІНЫ РЭГІЁНА. СЕНСАЦЫІ

✓ ПРАГРАМА TV НА ТЫДЗЕНЬ

✓ РЭКЛАМА

## Спакуса была вялікай. І «Вежа» не ўстаяла

**«Пріорбанк» нядаўна абвясціў аб набыцці ў Маладзечне ўласнага будынка па Вялікаму Гасцінцу, 113а. Яго прадала банку фірма «Вежа».**

***Яшчэ некалькі гадоў таму, калі ў Маладзечне толькі разгортваўся прадпрымальніцкі рух, на небасхіле сярод іншых з'явілася невялічкая зорка з чырвоным адлівам— маладзёжнае шматпрофільнае прадпрыемства «Вежа». Тады яшчэ існаваў камсамол і станаўленне «Вежы» праходзіла пад яго цёплым клапатлівым крылом.***

Без асаблівых цяжкасцей фірма набыла плошчы для арганізацыі гандлю, а таксама падвальнае памяшканне ў адным з інтэрнатаў па вуліцы Касманаўтаў, дзе было створана некалі добра вядомае кафэ «Лабірынт», таксама маладзёжнае.

Тут праводзіліся вечары адпачынку, розныя мерапрыемствы, якія арганізоўваліся гарадскім камітэтам камсамола, камітэтамі камсамола прадпрыемстваў, арганізацый. У гэтым кафэ, як нідзе ў горадзе, усё было прыстасавана для паўнацэннага адпачынку: бар з вялікім на той час выбарам напояў, танцавальная зала, більярдная, зала камп'ютэрных гульняў і інш.

Няма слоў, вежаўцы шмат прыклалі намаганняў, каб стварыць такі «ачаг адпачынку». Але без дапамогі «з месцаў»— ад «пярвічак» прадпрыемстваў і арганізацый— наўрад ці хапіла б у іх сіл і сродкаў. Можа не зусім падыходзіць сюды прымаўка «С миру по нитке— нищему рубаха», і ўсё ж цяпер многія з былых радавых камсамольцаў з упэўненасцю могуць сказаць, што іх уклад у стварэнне кафэ таксама ёсць.

Тады гэтага ніхто і не адмаўляў. Вось чаму вежаўцы з вялікай павагай адносіліся да сваіх, як цяпер модна гаварыць, спонсараў і ўвогуле да тых, хто дапамагаў стаць на ногі.

Аднак хутка ўсё памянялася. Пад моцным ветрам перабудовы абрушыліся партыя , а з ёю і камсамол, як «накіроўваючыя» сілы, і пачалі набіраць абароты прыватныя прадпрыемствы. А з імі і «Вежа». Зрэшты, вырашылі вежаўцы пабудаваць для сябе шыкоўны офіс, а заадно і дом з не менш шыкоўнымі кватэрамі ў цэнтры горада. Аднак не разлічылі свае сілы і кафэ «Лабірынт» прыйшлося прадаць.

І вось, здавалася б, будоўля закончана. Цудоўны дом атрымаўся і вельмі прыгожая прыбудова да яго— офіс фірмы «Вежа», куды можна трапіць праз галерэю адразу з уласнай кухні.

Усе выгоды— толькі працуй. Аднак, відаць, нешта зноў не шанцуе вежаўцам. Вырашылі яны прадаць свой даволі prasторны флігель «Пріорбанку». А можа, наадварот, пашанцавала. Пакупнік сур'ёзны, багаты, за цаной, як кажуць, не пастаіць.

І не пастаяў. Па чутках, банкіры задаволілі інтарэсы кіраўніцтва «Вежы». Сума здзелкі, праўда, трымаецца ў глыбокай тайне.

Цяпер вежаўцы арэндуюць памяшканне пад офіс у палітэхнікуме. Што рыхтуюць на продаж цяпер?

Думаецца, да продажу кватэр справа не дойдзе.

***Аддзел інфармацыі***

### Слова да калегаў

## Не так страшная «Рэгіянальная газета», як яе ўяўляюць

***Тэлефонная размова з рэдактарам адной з раённых газет пакінула не вельмі прыемны асадак. Яшчэ б, калега, якога ведаеш не першы год, пакрыўдзіўся за тое, што «РГ» "стала канкурэнтам": Я вас разумею, добрую газету робіце, але ... І дадаў: Пілаваць сук пад сабой не буду.***

Ідэя стварэння рэгіянальнай газеты не па назве, а па змесце і ахопу тэрыторыі ў яе стваральнікаў зарадзілася не сёння. Маладзечанцы і, магчыма, некаторыя з вілейчан, памятаюць нараджэнне і поспех рубрыкі «Маладзечанскай газеты» "Шыла на мыла", якая з проста раздзела бясплатных прыватных аб'яў перарасла ў папулярную забаўляльную рубрыку для ўсіх узростаў. Менавіта яна дазволіла «Маладзечанскай газеце» знайсці падтрымку і сярод вілейчан— «МГ» паступала некаторы час у кіёскі Вілейкі. Гэта было практычным пацвярджэннем неабходнасці агульнай для рэгіёна газеты. Былі і іншыя доказы гэтага. Скажам, агульная транспартна-гаспадарчая прастора, звязаная Маладзечнам, настальгія па тых часах, калі нашы раёны не падзяляла абласная граніца...

Агульная для рэгіёна газета з'явілася. З'явілася не як канкурэнт раёнкам, а як інфармацыйная повязь тых гарадоў і раёнаў, што пазначаны ўверсе кожнай нашай паласы. Мы не адмаўляем і не будзем адмаўляць толькі канкурэнцыю сапраўды прафесійную, якая вызначае пераможцу па якасці газетнага матэрыяла, па сапраўднай актуальнасці, насычанасці і цікавасці інфармацыі. Такая канкурэнцыя дазволіць падняць планку прафесіяналізму ўсім нам, журналістам-раёншчыкам. Менавіта на мясцовыя кадры і робіць сваю стаўку «Рэгіянальная». Вядома, будуць хібы і памылкі і ў нашай газеты, але мы ўпэўнены ў будучыні, бо маем жаданне ўбачыць будучыню такой, якой збіраемся яе будаваць разам са сваім чытачом, з тымі калегамі, якія разумеюць— чытача не трэба павучаць, трэба проста жыць яго праблемамі і клопатамі. Як жывём з ім па-суседску на адной лесвічнай пляцоўцы.

А што да колькасці газет— дык у Барысаве, скажам, агульнагарадскіх газет некалькі. І ўсе пачуваюць няблага. Сук пад сабой пілаваць, сапраўды, небяспечна. Толькі мы да гэтага не заклікаем. Мы спадзяёмся на прафесійнае ўзаемаразуменне. Людзям хочацца ведаць, што робіцца ў суседзяў. І давайце пра гэта ім раскажам. Ён жа, сук, проста можа абламіцца, калі не пашукаць апірышча больш трывалага— не спусціцца на зямлю.

***Аляксандр МАНЦЭВІЧ***

***14 мая мы прыйдзем на выбарчыя ўчасткі. Ад пазіцыі грамадзян дзяржавы залежыць яе будучыня. Мы не можам перакласці адказнасць за лёс Бацькаўшчыны на чыесці плечы. Скажам сваё слова. Мы маем на гэта права***



Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

(індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

На 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

---

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на (індэкс выдання)

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | |

На 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ІНФАРМАЦЫЯ, ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАННЯ НА ТЫДЗЕНЬ, РЭКЛАМА І ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ПАДПІШАМСЯ НА «РЭГІЯНАЛЬНУЮ»!

Падпісная кампанія на «РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ» пачалася. На наша выданне можна падпісацца ў Маладзечне, Вілейцы, Смаргоні, Ашмянах, Валожыне, Мядзеле, Астраўцы і адпаведных раёнах Мінскай і Гродзенскай абласцей. У Мінску газета ў наступным квартале будзе распаўсюджвацца толькі праз кіёскі «Белдруку». З чацвёртага ж квартала, калі «РЭГІЯНАЛЬНАЯ» будзе ўнесена ў рэспубліканскі падпісны каталог, выпісаць яе можна будзе і ў сталіцы.

**Падпісная цана на квартал— 5 тысяч рублёў**

Кожны тыдзень навіны нашага краю— у ваш дом!

Нашы знаёмствы

# «Хопіць нам быць прастакамі!»

***Гэтага добразычлівага чалавека на Мядзельшчыне ведаюць вельмі многія. Ён тут нарадзіўся і ажаніўся, пачынаў працоўны шлях паляводам у калгасе «Зара», які цяпер узначальвае. Праўда, летась гаспадарка рэарганізавана ў аграфірму, што пайшло яе работнікам толькі на карысць. Лічыцца ініцыятыўным кіраўніком, умее знаходзіць выйсце і са складаных эканамічных сітуацый. Таму і заробак вяскоўцаў у сакавіку склаў ад 300 да 700 тысяч рублёў. На сённяшнія цэны — няшмат. Але трэба ўлічваць, што такім заробкам калгаснікаў могуць пахваліцца вельмі нямногія краўнікі гаспадарак. Як ужо здагадаліся нашы чытачы азёрнага краю, размова аб Пятру Чарняўскім. Ён хутчэй чалавек справы, чым палітык. Зыходзячы з гэтага, тыя, хто з ім добра знаёмы, былі некалькі здзіўлены, калі пачулі, што Пётр Давыдавіч вырашыў «паспрачацца» за мандат дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Чаму адважыўся на такі крок? Можа захацелася папулярнасці, палепшыць сваё матэрыяльнае становішча, атрымаць ільготы, лепшую пасаду?..***

— Ні ў якім выпадку, — рашуча запярэчыў ён у гутарцы. — Справа зусім у іншым. Вы паглядзіце, што атрымоўваецца. Рэспубліку нярэдка хваляць замежныя паслы, банкі даюць нам крэдыты, з Захаду паступае розная дапамога, а жыццё ўсё роўна пагаршаецца. Чаму? Ды таму, што жывём не сваім розумам!

Сітуацыя ў сельскай гаспадарцы наогул катастрафічная. Па вялікаму рахунку ўсе калгасы раёна — банкруты. І ў першую чаргу з-за таго, што іх абдзіраюць, падоўгу не разлічваюцца за здадзеную прадукцыю, адсутнічае парытэт цэн. Вось канкрэтны прыклад. Мы здалі на мясакамбінат 100 тон свініны. Пачыналася пасяўная, патрэбны былі грошы. А іх няма тыдзень, другі. Пачаў абіваць парогі розных кабінетаў. Дайшоў аж да Багданкевіча. І ўсё роўна грошы змаглі атрымаць толькі больш як праз месяц. Ці ж гэта парадак? Сам жа па сабе ён не ўстанюецца. Чакаць гэтага — марны лёс. А будучы дэпутатам Вярхоўнага Савета, многага можна дабіцца ў справе станаўлення сельскай гаспадаркі. А калі павесялее вёска — ажыве і горад.

***— Як вы лічыце, якое пытанне трэба ў абавязковым парадку разгледзець на першай сесіі Вярхоўнага Савета новага скліканя?***

— Такіх пытанняў шмат. Аднак, каб мець у выбаршчыкаў сапраўдны аўтарытэт, неабходна, на маю думку, ліквідаваць неабгрунтаваныя льготы дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Калі цяжка жыць у краіне — то гэта павінны адчуваць усе і агульнымі намаганнямі выводзіць яе з крызісу. Толькі ў такім выпадку будзе толк. І наогул, калі людзі акажуць мне давер, буду дабівацца, каб аклады кіруючага апарата напрамую залежылі ад заробку рабочых.

***— Пётр Давыдавіч, якой вам бачыцца будучыня нашай Беларусі?***

— Яна павінна мець свае межы, грошы, адзіную дзяржаўную мову, войска, спецслужбы і мытню, падтрымліваць з усімі краінамі свету добрасуседскія адносіны. Тады нашы хлопцы ніколі не будуць ваяваць у Чачні, іншых «гарачых пунктах».

Не абыйсціся і без добрых законаў. Менавіта іх недасканаласць і супярэчлівасць дае магчымасць несумленным чыноўнікам бессаромна нажывацца, рабаваць людзей сярод белага дня. Усе зладзеі, незалежна ад займаемых імі пасад, авінны сядзець за кратамі.

***— Пётр Давыдавіч, наколькі мне вядома, вы з сям'ёй жывяце ў Сватках. Ходзяць чуткі, што і ў райцэнтры дом для сябе ўзводзіце. За што цяпер, дарэчы, і крытыкуе вас у асноўным большасць астатніх прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат.***

— Сапраўды, будую пацціху за ўласныя сродкі . Памяркуйце самі, а што мне заставалася рабіць. Збіраў у свой час грошы на «Жыгулі», але купіць так і не ўдалося. Памятаеце, напэўна, колькі было жадаючых 5-6 год таму набыць машыны, халадзільнікі, тэлевізары. А тут— імклівая інфляцыя. Грошы абясцэньваліся на вачах. Вось і вырашыў тады займець свой дом у райцэнтры. Не самім— дык дзецям, якіх у нас двое, з часам будзе дзе жыць.



***— Скажыце, а ці будуеце цяпер жыллё для работнікаў аграфірмы?***

— А як жа! У тым жа Мядзеле дапамагаем пабудаваць сваім работнікам тры дамы. У прыватнасці, адзін з іх для сям'і механізатара. Апрача гэтага будуем для тых, хто мае патрэбу ў кватэрах дзесяць катэджаў у гаспадарцы. І дванаццаці сем'ям дапамагаем будаваць жыллё ўласнымі сіламі. Аграфірма выдзяляе ім па льготных цэнах будматэрыялы, транспарт...

***— Аснова сельскагаспадарчай вытворчасці — зямля. Наконт яе выказваюцца самыя розныя меркаванні: ці то прадаваць усім жадаючым, ці то бясплатна раздаваць?***

— Калі браць у комплексе, то пытанне гэтае вельмі няпростае. Па майму перакананню, зямля павінна належаць таму, хто яе апрацоўвае, з правам перадачы ў спадчыну. Прысядзібныя ж участкі трэба перадаць грамадзянам у прыватную ўласнасць.

***— Хацелася б пачуць аб вашых адносінах да прэзідэнцкага рэферэндуму.***

— На яго вынесена аж чатыры пытанні. Аднак, на мой погляд, галоўнага сярод іх няма. Чаму б не пацікавіцца ў людзей: якое нам лепш грамадства будаваць, а якому шляху ісці? Але пра гэта ніхто не пытаецца. Як і не пыталіся, калі абясцэньвалі ўклады насельніцтва, паабіралі людзей да ніткі. Цяпер вельмі многія пенсіянеры аказаліся кінутымі на волю лёсу, асабліва ў гарадах. У вёсках іх хаця б крыху калгасы падтрымліваюць. А хто як не гэтыя людзі заслужылі права на дастойную і спакойную старасць?! Забяспечыць яе — адна з галоўных задач новага саставу Вярхоўнага Савета.

***— І ўсё ж, давайце вернемся да найбольш актуальных пытанняў рэферэндуму.***

— Я супраць надання рускай мове роўнага статусу з беларускай, бо гэта можа стаць пачаткам знішчэння нашай незалежнасці і самабытнасці. Наколькі разумею, некаторыя ўплывовыя чыноўнікі імкнуцца забяспечыць сабе законнае права не карыстацца беларускай мовай. Тады можна яе і не ведаць, спакойна сядзець ва ўтульных кабінетах і па-ранейшаму на словах агітаваць «за белорусский язык».

Не падтрымліваю і паспешлівую прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўных сцяга і герба. Няхай найперш з гэтай праблемай грунтоўна разбяруцца вучоныя. Тут не пашкодзіць і сем разоў адмераць. Змена дзяржаўнай сімволікі каштуе вялікіх грошай. І возьмуць іх не адкуль-небудзь, а з кішэні працоўнага люду, якая і так амаль пустая. Толькі на новыя пашпарты, што і ўручыць яшчэ не паспелі, зрасходаваны многія мільёны долараў. А цяпер што — зноўку друкаваць яшчэ навейшыя? І зноў — за кошт народа. Можа, хопіць нам быць прастакамі?!

Не спяшаўся б даваць станоўчы адказ і на апошняе пытанне рэферэндуму. А, у рэшце рэшт, кожны выбаршчык 14 мая павінен вызначыцца і самастойна прыняць рашэнне, ад якога ў многім будзе залежыць заўтрашні дзень нашай краіны. Я асабіста спадзяюся на лепшае і веру ў тое, што і мы неўзабаве станем жыць так, як павінен жыць працавіты і таленавіты народ. Няхай пашчасціць усім нам!

*Гутарыў Янка ВАСІЛЕЎСКІ.*

Вёска

## –Што добрага ў вас чуваць?– як заўсёды, пачынаю размову па тэлефоне з матуляй, якая жыве ў невялічкай вёсачцы на Валожыншчыне.

— Ды вось бульбу са склепа выцягнулі, у мяшкі набралі. Бацька з канём дамовіўся на наступныя выхадныя. Прыязджайце, без вашай дапамогі не абыйдземся, сама ж ведаеш, які надзел, на цэлы дзень работы хопіць.

Яшчэ ў мінулым годзе з пасадкай бульбы ў бацькоў было менш клопатаў: можна было выпісаць тэхніку ў калгасе. Няхай сабе і ў апошнюю чаргу. Бацькі мае — вясковыя настаўнікі і не сакрэт, як мясцовыя ўлады «клапоцяцца» пра сельскую інтэлігенцыю. Хоць як і калгаснікі, яны і дзялку з буракамі бяруць, і з вучнямі камяні з палёў збіраюць, і бульбу капаюць. Сёлета ж рэдка калі грузавая машына ці трактар праз вёску пройдзе. Няма запчастак, няма бензіну. Калгасныя б палі засеяць, пра людскія соткі — і гаворкі няма. Гадоў мо дзесяць, а то і больш таму мы ўручную бульбу садзілі, прыйдзецца ўспамінаць, як гэта робіцца.

Яшчэ адна навіна: прыбаўленне ў гаспадарцы. Кароўка нарадзіла чорненькую цялушачку (мінулыя гады былі бычкі ды бычкі, а карову мяняць пара). Ночкай назвалі. Ды вось прыкрасць — на мастыт карова захварэла. Калгаснага ветэрынара ледзь угаварылі прыйсці паглядзець. Лекаў у яго ўсё роўна няма ніякіх, а ў гэтым годзе, як ніколі, і калгасныя, і людскія каровы хварэюць. Па некалькі разоў на дзень, пакуль рукі не сцерхнуць, расціраюць маці з бацькам вымя свіным тлушчам, ды ў Бога просяць, каб акрыяла кароўка-карміцелька.

Хто на вёсцы дужэйшы ды мацнейшы гаспадар — па некалькі кароў трымае. Што ні субота — на цягнік, у Маладзечна на рынак з маслам, тварагом, смятанай. Свае сакрэты ў іх ад пераборлівых гараджан. Яны ўсё жоўценькае масла вышукваюць, а адкуль яму такім быць без свежай травы? Некалькі кропель маркоўнага соку — ад пакупнікоў не адбіцца. Вітамінізаванае, так бы мовіць, масла атрымліваецца. І ўсе задаволены.

— У Сашкі, суседа нашага, вяселле згулялі, — прадаўжае маці пералік падзей, якія выбіваюцца з каляіны паўсядзённасці, аб якіх потым вядуць вяскоўцы размовы ў магазіне, сустрэўшыся на вуліцы, з суседзямі праз плот.

Што казаць, на вёсцы пакуль яшчэ працей спраўляць такія вялікія балі на пяцьдзесят, а то і сто чалавек. Закалолі суседзі вялікага, як гара, парсюка, зарэзалі цяля, — закуска гатова. А самагонку ўвішны жаніх яшчэ з зімы ў лесе нагнаў. Валожынская самагонка ва ўсе часы сваім смакам і памяркоўнай цаной славілася. Так што дарагоўля ды інфляцыя на размах сялянскіх вяселляў не паўплывалі: два дні госці гулялі ў нявесты з суседняй вёскі, два — у жаніха, пілі і елі, колькі хацелі. Адзіная прыкмета рынку, пра які ў газетах пішуць: як дарыць маладых пачалі — усе з кішэняў даляры павыцягвалі. З пары не менш, чым дзесяць «зялёненькіх» — такая такса.

— Ну, а да выбараў у вас якнебудзь рыхтуюцца? — на заканчэнне спыталася я.

— Ды ціха ў нас пакуль. Сама разумееш, выбары пройдуць, запал астыне. На сябе вяскоўцам спадзявацца трэба. Так што прыязджайце бульбу садзіць, чакаем!

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

*Спецыяльна для «Рэгіянальнай газеты»*

Без улады дадзім сабе рады?

## Юзік Шулюк выходзіць на сувязь

**Смаргонскі раён.** Нельга сказаць, што вёска Казяняты аддалена ад дарог, знаходзіцца дзесьці ў глухім лесе ці за непраходным балотам. Не. Яна размешчана непасрэдна на асфальтаваным гасцінцы, які звязвае са Смаргонню такія населеныя пункты як Нястанішкі, Жодзішкі... Але вось бяда. Ніхто не мае ў Казянятах тэлефона. Ды і не меў ніколі. Калісьці, праўда, з райцэнтрам, сельсаветам і цэнтрам гаспадаркі сувязь падтрымлівалася праз тэлефон, што быў устаноўлены на калгаснай ферме.

На днях успомніў пра гэта мясцовы фермер Юзік Шулюк. Дзесьці раздабыў апарат і паспрабаваў падключыцца да старога кабелю. Калі-нікалі нават і чуваць нешта ў трубцы. Дык гэта ж не сувязь! А ў вёсцы жыве большасць людзей сталага ўзросту. Ёсць і ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны. Яшчэ не позна мясцовым уладам зрабіць ім добры падарунак у год юбілею Перамогі.

*Міраслаў ГРОМ*

Вілейшчына

## Менш становіцца невядомых

На сорак дзевяць прозвішчаў папоўніўся спіс воінаў Вялікай Айчыннай, што аддалі свае жыцці за Радзіму, на помніку ў Куранцы. Напярэдадні пяцідзесяцігадовага юбілею Перамогі ў мітынгу ля манумента прынялі ўдзел ветэраны, жыхары Вілейшчыны, госці са сталіцы Беларусі.

## Будуць у музеі і кошык, і калаўрот

Не часта ў нас адкрываюцца новыя музеі. Тым больш вясковыя. У вёсцы ж Каловічы вырашылі аддаць пад музей будынак Дома культуры. Там размясціў сваю экспазіцыю Дзяржаўны музей народных майстроў. Не забудзецца цяпер ні пляценне з лазы, ні ткацтва, ні іншыя формы народнага побыту, якія ўвасабляўся ў шматлікіх промыслах нашага краю. Знойдуць у музеі сваё месца і кошык, і калаўрот, і кросны...

*Аддзел інфармацыі*

Дзе лепш адпачываць? Здраўніцы Нарачанскага краю

# Дом, дзе вам рады

Сярод шматлікіх здраўніц Мядзельшчыны дом адпачынку «Нарач» займае асаблівае месца. І не толькі таму, што з'яўляецца найбольш даступным па кошту пуцёвак, якія і на самой справе адносна танныя. На 12-дзённы прыемны і змястоўны адпачынак дастаткова 455 тысяч рублёў. Гэта калі вы будзеце пражываць у аднамесным пакоі. Асноўная ж колькасць прыязджаючых селіцца ў двух- і трохмесныя нумары. Яны за пуцёўкі плацяць на некалькі дзесяткаў тысяч рублёў менш.

У дома адпачынку даўнія і добрыя традыцыі. Гэтай здраўніцы ўжо за трыццаць. А на працягу аднаго года тут папраўляюць здароўе, набіраюцца сіл звыш дваццаці тысяч чалавек. Важны і такі момант: менш бяруць за пуцёўку — у даным выпадку не азначае, што горш і абслугоўваюць. Апошнія гады ў здраўніцы мэтанакіравана працуюць над тым, каб кожны адпачываючы зноў і зноў імкнуўся трапіць на маляўнічы бераг сінявокай Нарачы. І гэта калектыву дома адпачынку на чале з дырэктарам Уладзімірам Баравым у многім удаецца.

— Ведаеце, — шчыра дзяліўся ўражаннямі Віктар Каташук з Лунінца, — тут усё на ўзроўні: жыллё, харчаванне, абслугоўванне. Прыязджаю сюды ўжо не першы раз. Вельмі добра тое, на мой погляд, што ў здраўніцы створаны ўсе ўмовы і для змястоўнага сямейнага адпачынку.

Тут працуюць працэдурны і зубны кабінеты; прымаюць наведвальнікаў дзіцячы ўрач і тэрапеўт. За адносна невялікую плату можна наведаць цырульню, касметолага, масажыстку, прайсці курс мануальнай тэрапіі альбо падлячыцца па методыцы Джуны і Кандыбы.

Ёсць і пункт пракату, дзе можна ўзяць тэлерадыёапаратуру, веласіпеды, посуд, музычныя інструменты. Летам шмат жадаючых пакатацца на лодцы, водным веласіпедзе.

Многія з ахвотай ходзяць на вечары адпачынку, якія праводзяцца штодня, у кіно. Не пустуе спартыўная зала. Нямала прыезджых проста ў захапленні ад добрага тэніснага корта. Хто хоча — ідзе ў сауну, а ёсць і такія, што аддаюць перавагу бару.

Выклікае сімпатыю і тое, што адміністрацыя дома адпачынку ў цяперашні няпросты час не толькі зводзіць канцы з канцамі, але і думае аб перспектыве.

— Запланавалі вось рэканструкцыю другога корпуса, — расказаў пры сустрэчы Уладзімір Баравы. — Праектная дакументацыя падрыхтавана. Адным, праўда, з такім аб'ёмам работ у сціслыя тэрміны не справіцца. Таму, калі знойдуцца жадаючыя прыняць долевы ўдзел у гэтай справе на вельмі выгадных умовах — будзем толькі рады.

Здараецца і такое, што камусьці з-за недахопу часу не выпадае прыехаць на Нарач на 12 ці 24 дні. Ёсць, напрыклад, толькі двое-трое сутак, якія хочацца правесці рамантычна. І ў такіх выпадках людзям у здраўніцы ідуць насустрач. Трэба толькі загадзя пазваніць і зрабіць заяўку. Можна прыехаць аднаму, а можна і з сябрамі.

Для індывідуальнага транспарту ў доме адпачынку— платная стаянка. Зараз вырашаецца пытанне, каб у дні масавага ад'езду ад здраўніцы курсіраваў прамы аўтобус на Мінск. Кошт білета будзе як і на рэйсавым, затое на ўвесь шлях часу спатрэбіцца амаль у два разы менш, бо не трэба рабіць прыпынкі, усялякія там заезды і аб'езды.

Не лішнім будзе сказаць некалькі слоў аб харчаванні. Дарослых кормяць тры разы на дзень, дзяцей — чатыры. Меню — заказное, кожны можа выбраць стравы па густу. Як заўважыла адна жанчына з Гомеля, кормяць у доме адпачынку «так добра, што нават і не чакала».

У кнізе водгукаў здраўніцы адпачываючыя ў розныя часы зрабілі нямала ўдзячных запісаў. Як можна меркаваць па настрою і задумках Уладзіміра Баравога, і надалей іх будзе не менш.

*Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ.*

